Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 2 лютага 1999 г. № 11 (542) Кошт свабодны

## Палітзняволеным – волю!

**Каля 700 парламентарыяў з 20 краінаў свету паставілі свае подпісы пад патрабаваннем вызвалення дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава.**

Нядаўна да патрабавання далучыліся таксама 10 фінскіх дэпутатаў. Па словах Анатоля Лябедзькі, у бліжэйшы час да акцыі падключацца прадстаўнікі Аўстрыі і Славакіі. Падтрымаў сваіх калегаў з Беларусі і Еўрапейскі дэмакратычны саюз. Гэтая ўплывовая структура, якая аб'ядноўвае прадстаўнікоў 30 краінаў, прыняла спецыяльную заяву па сітуацыі ў нашай краіне. У ёй таксама ёсць патрабаванне аб вызваленні палітзняволеных у Беларусі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Заява суполкі мастакоў «Пагоня»

**Творчая суполка «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў распаўсюдзіла ў студзені тэкст закліку, з якім яна звяртаецца да дзеячаў культуры і ўсіх грамадзянаў Беларусі.**

Мастакі падкрэсліваюць, што ў цяперашні час нацыянальная мова, культура, асвета даведзеныя да катастрафічнага стану. Парасткі нацыянальнага Адраджэння пачатку 90-х гадоў знішчаныя. Уведзеная цэнзура на творы мастацтва і літаратуры. Пануе маскультура, адбываецца татальнае духоўнае разбэшчванне народа.

Творчая суполка «Пагоня» заяўляе рашучы пратэст аб'яднанню Беларусі з Расіяй, якое *«прывядзе да поўнай асіміляцыі беларусаў, суцэльнай нівеліроўкі нашай культуры і знікнення нас як нацыі»*. Мастакі заклікаюць кожнага суайчынніка публічна выказаць свой рашучы пратэст супраць спробы зліквідаваць дзяржаўнасць краіны і адстойваць незалежнасць Беларусі ўсімі магчымымі сродкамі.

## Святкаванне ўгодкаў хрысціянства

**25 снежня, а ў частцы касцёлаў Беларусі — 26-га, у дзень святога Стэфана, пачнецца святкаванне 2000-й гадавіны хрысціянства.**

Такое рашэнне было прынятае на паседжанні Нацыянальнага камітэта па святкаванні на чале з біскупам Антонам Дзямянкам. Паседжанне адбылося ў Мінску пры ўдзеле папскага нунцыя архібіскупа Д.Грушоўскага.

**С.М.**

# Кангрэс заклікае народ адстойваць незалежнасць

*Дэмакраты гатовыя аб'яднаць свае намаганні*

На мінулым тыдні ў Мінску прайшоў Кангрэс дэмакратычных сілаў, якога так чакалі прыхільнікі дэмакратыі. Двухдзённыя паседжанні амаль тысячы дэлегатаў ад партыяў і грамадскіх арганізацыяў завершыліся шматлюдным мітынгам на марозе, што засведчыла пэўную падтрымку ідэяў незалежнасці і дэмакратыі сярод жыхароў сталіцы. Аднак, канечне ж, дэмакраты збіраліся прадэманстраваць зусім не здольнасць цярпець люты мароз ды іншыя непрыемнасці. Напярэдадні яны казалі, што збяруцца, каб аб'яднацца для рашучага бою з дыктатурай. Аб'яднацца, як вядома, магчыма толькі на нейкай адзінай платформе. Вось гэтую платформу і стварылі лепшыя прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі.

### Беларусь як патэнцыйная Чачня?

Само жыццё, па словах дэмакратаў, прымушае іх быць бліжэй адзін да аднаго. Пад пагрозай незалежнасць Беларусі, а гэта — галоўная каштоўнасць. На гэтым пагадзіліся БНФ і АГП, сацыял-дэмакраты абедзвюх плыняў і нацыяналісты, дэпутаты Вярхоўнага Савета і многія актывісты прафсаюзаў, не толькі незалежных. У выніку ўзгадванне Сямёнам Шарэцкім Чачні ў кантэксце беларуска-расійскіх дачыненняў не здаецца перабольшваннем. *«Беларускі народ ніколі не пагодзіцца на страту сваёй незалежнасці»*, — заявіў на пачатку Кангрэса старшыня Вярхоўнага Савета, што прагучала як цвёрдае папярэджанне вядома каму.



Другая бясспрэчная рэч — агульная падтрымка абвешчаных Вярхоўным Саветам выбараў у траўні і адмова браць удзел у тых выбарах рознага кшталту, якія будзе праводзіць рэжым, каб «легітымізавацца». Дэмакраты ўпэўненыя, што для ўдзелу ў выбарах няма ўмоваў: электронныя СМІ манапалізаваныя рэжымам, палітычныя партыі, недзяржаўныя арганізацыі і прафсаюзы адчуваюць на сабе ўсё большы ціск. Свежым прыкладам такога ціску быў названы нядаўні прэзідэнцкі дэкрэт № 2, бо ён *«парушае канстытуцыйнае права грамадзянаў Беларусі на аб'яднанне ў партыі і арганізацыі»*. Катастрафічным лічаць дэмакраты і становішча з усімі іншымі правамі суайчыннікаў: палітычнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі. Адзінае выйсце з гэтага тупіка бачыцца ў выбарах іншага прэзідэнта, які, паводле словаў Генадзя Карпенкі, *«адштурхне ў бок палітычныя авантуры і зоймецца эканомікай ды сапраўднымі рэформамі»*.

### Канфуз і рэгрэс

Тое, як эканомікай займаўся Аляксандр Лукашэнка, дэмакраты ацанілі на двойку з мінусам. У гэтым самым мінусе і вытворчасць былога гонару беларускай эканомікі — трактараў і аўтамабіляў, і рэнтабельнасць, і інвестыцыі, і сальда ў гандлі з замежжам, прыбыткі прадпрыемстваў, запасы валюты ды іншае. Як вынік некампетэнтнага кіравання дзяржаўнай эканомікай — фактычна самыя нізкія ва Усходняй Еўропе заробкі рабочых, мізэрныя пенсіі, а галоўнае — неэфектыўнасць і рэгрэс. Яшчэ некалькі гадоў такой палітыкі — і беларускія тавары не тое што на Захадзе, на Усходзе ніхто не купіць.

Бяда яшчэ ў тым, што, дрэнна кіруючы дзяржаўнай эканомікай, Лукашэнка не дае развівацца прыватнай ініцыятыве. У выніку з Беларусі ўцякае капітал, а замежных інвестыцыяў амаль няма. Міжнародная ізаляцыя лукашэнкаўскага рэжыму ўжо абышлася нам усім неатрыманнем магчымых даходаў, але яшчэ больш нашкодзіць нашым дзецям. Далей гэтак жа пойдзе справа — і яны будуць жабракамі ды невукамі ў цывілізаванай Еўропе XXI стагоддзя.

Не атрымоўваецца ў прэзідэнта з прамысловасцю, дык хаця б у сельскай гаспадарцы дамогся поспеху. Не, і тут канфуз, прычым яшчэ большы. Калі ў 1994 годзе ставілася мэта вярнуцца на ўзровень 1991-га, то цяпер хаця б дацягнуць да таго, што было ў 1994-м. Але не атрымоўваецца і гэтага. З кожным годам беларускіх прадуктаў усё менш, а кошты на іх усё вышэй. Прычына — калгасная сістэма, якую Лукашэнка не тое што не рэфармаваў, а нават узмацніў. Між тым, на думку кіраўніка сялянскай партыі Яўгена Лугіна, калгасная сістэма трымаецца толькі на абкрадванні селяніна. Лугін нагогул прад'явіў Лукашэнку надзвычай вялікі рахунак. *«Зрабіўшы стаўку на неэфектыўную калгасную сістэму, прэзідэнт падарваў дзяржаўную бяспеку краіны»*, — лічыць старшыня сялянскай партыі. Раней мы залежалі ад паставак нафты, газу, цяпер нават пракарміць сябе не можам. Хіба гэта не палітыка дзяржаўнай здрады?

*(Працяг на стар. 2)*

ТЫТУЛАВАННЕ

## На Беларусі новыя рок-каралі

*Беларускі рок дарос да вялікіх залаў і добрага гучання*

30 студзеня ў канцэртнай зале «Мінск» адбылася пятая, юбілейная «Рок-каранацыя». Само месца правядзення сведчыць пра афіцыйнасць і сур'ёзнасць гэтага мерапрыемства.

Як звычайна, пераможцаў павінны былі вызначыць журналісты і іншыя кампетэнтныя людзі шляхам анкетавання. Сёлета было запоўнена 82 анкеты. Вынікі анкетавання засталіся загадкай, але сам склад удзельнікаў яскрава сведчыць пра асабістыя густы арганізатараў.

На званне «Лепшы альбом года» прэтэндавалі работы усяго толькі двух гуртоў, «Нейра-Дзюбель» ды «Стокс» — аднак альбомы «Троіцы» і «Крыві», несумненна, таксама заслугоўваюць увагі. «Троіца», якую многія лічаць самай лепшай групай года, у выніку атрымала «рок-карону» ў намінацыі «Традыцыі і сучаснасць». Відаць, фантазіі арганізатараў зноў хапіла толькі на тое, каб пад традыцыямі разумець адно беларускі фальклор.

На сёлетняй «Рок-каранацыі» шмат спецыяльных прызоў атрымалі «Крама» і «Тарнада», «Ляпіс Трубецкой» і «Новае неба». У гэтым адчуваецца нейкая боязь адступіць крок налева ці направа ў вызначэнні пераможцаў, — з году ў год паўтараюцца адныя і тыя ж імёны, нават калі за прайшоўшы год яны нічым не вылучыліся.

Але вернемся да асноўнага намінанта «Рок-каранацыі'98». Склалася такое ўражанне, што ўся імпрэза была задумана і праведзена дзеля ўшанавання адной толькі групы, якая фігуравала ці не ў кожнай намінацыі. Сапраўды, «Нейра-Дзюбель» у гэтым годзе выпусціў добры прафесійны альбом «Охотник и сайгак» ды зрабіў некалькі кліпаў на песні з гэтага альбома. Кожны, хто меў няшчасце ўключыць беларускае тэлебачанне, абавязкова трапляў на «Нейра-Дзюбель». Таму заканамерна, што гэтая група атрымала ў гэтым годзе вялікую «рок-карону».

Сёлета ў «Рок-каранацыі» з'явілася новая намінацыя — «Лепшы музыкант года».

*(Працяг на стар. 3)*



НАША ВОЛЬНАЯ РАДЗІМА

## У Беларусі выбухнула некалькі Чарнобыляў?

**Беларусь была забруджаная радыяцыяй задоўга да аварыі на Чарнобыльскай АЭС — у гэтым упэўнены рэктар Гомельскага медыцынскага інстытута прафесар Юрый Бандажэўскі.**

Яшчэ ў 1994 годзе ў штаб-кватэры МАГАТЭ яму ўдалося атрымаць мапу цэзіевай забруджанасці еўрапейскай часткі былога СССР. Мапа была датаваная 1963-1964 гадамі. Значная частка тэрыторыі Беларусі была пазначаная на ёй як заражаная цэзіем — адным з найбольш небяспечных радыеактыўных элементаў.

Менавіта на пачатак 60-х гадоў прыйшоўся пік захворваемасці беларусаў. Чарнобыльская катастрофа, лічыць прафесар, толькі завяршыла справу поўнага забруджвання беларускай зямлі цэзіем і дала новы магутны штуршок да рэзкага павелічэння захворваемасці насельніцтва.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

ЭКАЛОГІЯ

## Самыя небяспечныя гарады

**Наваполацк і Магілёў — самыя забруджаныя гарады Беларусі.**

Пра гэта паведаміў міністр прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя Міхаіл Русак.

У Магілёве больш за ўсё небяспечных выкідаў у атмасферу даюць хімічная прамысловасць і аўтатранспарт. Горад літаральна задыхаецца з-за адсутнасці ачышчальных збудаванняў. На экалогію патрабуюцца сотні мільярдаў рублёў, але дзе іх узяць?

Варта нагадаць, што і Магілёў, і Наваполацк па забруджанасці ўжо даўно з'яўляюцца «лідэрамі» Беларусі. Яшчэ падчас існавання СССР яны ўваходзілі ў сумны лік 10 найбольш забруджаных гарадоў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Справа Фонду Сораса зноў у судзе

**Справа аб абавязковым продажы валюты Беларускім фондам Сораса (БФС), магчыма, зноў будзе разглядацца ў Вышэйшым гаспадарчым судзе РБ.**

Нагадаем, што у пачатку года калегія суда прызнала, што прэтэнзіі да фонду у памеры 74 мільярдаў рублёў прад'яўленыя з парушэннем парадку. Аднак падатковая інспекцыя Ленінскага раёна Мінска не задаволілася гэтым рашэннем і звярнулася з апеляцыяй у Вышэйшы гаспадарчы суд. Такі паварот падзеяў не выключаўся, хоць і было меркаванне, што беларускія ўлады, зацікаўленыя ў рэанімацыі кантактаў з Захадам, усё ж адчэпяцца ад БФС. Не адчапіліся.

Магчыма, што гэтае пытанне суд зноў вырашыць на карысць БФС. Тым не менш рана чакаць завяршэння гісторыі з рэабілітацыяй фонду. У падатковікоў ёсць у запасе яшчэ прэтэнзіі да БФС. Яны лічаць, што на Фондзе Сораса «вісяць» яшчэ 3 мільярды «зайцоў», якія ён нібыта завінаваціўся нашай казне. І гэта пры тым, што за часы кантактаў з нашай краінай Джордж Сорас аказаў дабрачынную дапамогу беларусам на 13 мільёнаў долараў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Старажытны Лагойск рыхтуюць у Саюз

**Як паведаміла ў «адкрытым лісце» Лагойская раённая рада БНФ «Адраджэнне», у старажытным Лагойску адбываецца замена шыльдаў з беларускамоўнымі назовамі вуліц на рускамоўныя шыльды.**

*«Замена шыльдаў»* — пішуць сябры Рады, — *не толькі зневажае годнасць беларускіх грамадзянаў, але выклікае з іх боку абурэнне лагойскім кіраўніцтвам, сведчыць аб яго антынацыянальнай палітыцы і ўваходзіць у супярэчнасць з заканадаўствам РБ».*

**Б.П.**

### Удакладненне

У мінулым нумары НАВІНАЎ з'явілася інфармацыя пра стварэнне ў Курапатах помніка «Пакутнікам Беларусі». У матэрыяле са словаў старшыні гістарычнага клуба «Спадчына» Анатоля Белага сцвярджалася, што нібыта праца над праектам ужо ідзе, аўтарам помніка з'яўляецца мінскі скульптар Аляксандр МіронЧык.

Але ўчора да нас завітаў сам А.Міронччык, які абверг гэтыя сцвярджэнні А.Белага. Па словах скульптара, ён даведаўся пра сваю працу над помнікам толькі з нашай газеты. А.Міронччык сцвярджае, што спадар Белы звяртаўся да яго з такой прапановай, але атрымаў адмову.

Мы прыносім прабачэнне нашым чытачам за недакладнасць і пакідаем на адказнасці А.Белага ягоныя выказванні. Што да заклку А.Белага ахвяраваць сродкі на помнік, то няхай чытач вырашыць для сябе сам, ці зможа прыстойна распарадзіцца гэтымі сродкамі чалавек, які «для поспеху справы» можа распаўсюджваць недакладную інфармацыю.

**Рэдакцыя**

# Кангрэс заклікае народ адстойваць незалежнасць

(Пачатак на стар. 1)

### «Мы б пайшлі іншым шляхам»

Што прапануюць дэмакраты, каб ужо ў хуткім часе змяніць негатыўныя тэндэн-





цыі на станоўчыя? Генадзь Карпенка кажа пра аднаўленне сувязяў з Украінай, Польшчай ды Балтыяй, пра стварэнне спрыяльных умоваў для малога і сярэдняга бізнесу, абарону сваёй паўнацэннай валюты і шэраг іншых захадаў. Галоўнае, на думку старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэта і аднаго з патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, кіравацца ў развіцці эканомікі нацыянальнымі інтарэсамі, а не палітычнымі міфамі.

Інтарэсам беларускай эканомікі супярэчыць аднабаковая інтэграцыя з Расіяй. Перспектыва краіны, якая не мае вялікіх прыродных рэсурсаў, — у цесных сувязях з высокатэхналагічнымі эканомікамі Еўропы, упэўнены старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч. Гэтым шляхам ідуць краіны Балтыі, Польшча, Чэхія, нас жа, на думку

біць *«фарпостам канфрантацыі»* Расіі з Захадам. Цэлую праграму палітычнага адпору гэтай палітыцы прадставіў на Кангрэсе адзін з лідэраў БНФ Лявон Баршчэўскі. Ён увогуле лічыць, што для апазіцыі надышоў час назваца *«нацыянальным вызвольным рухам»*. *«Ці чулі вы дзе, каб метраполія будавала ў сваёй калоніі дэмакратыю і рынак? Вось такая перспектыва аказацца па-за прагрэсам пагражае Беларусі, калі яе праглыне Расія»,* — упэўнены Баршчэўскі. Але, на ягоную думку, для нас небяспечная не толькі імперыя на Усходзе, але не менш — свае ўласныя беды. Чарнобыль. Карупцыя чыноўніцтва. Здрада вышэйшай улады. Змагацца з гэтымі хваробамі трэба рашуча, а галоўнае — сумесна.

### Сумесна – гэта як?

«Сумесная платформа», на якой дэмакраты збіраюцца ехаць у XXI стагоддзе, — пакуль не больш чым дэкларацыя пэўных намераў. Распрацоўкай дэталёвага плана сумесных дзеянняў, відаць, займецца «Каардынацыйна-кансультатыўная Рада» (ККР), стварыць якую Кангрэс «прапануе» дэмакратычным партыям і арганізацыям. Як гэтая Рада будзе стварацца, пакуль не ведае ніхто. Адпаведнымі перамовамі зоймуцца партыі ды іншыя суб'екты палітычнага жыцця. Такім чынам, які будзе план *«вяртання Беларусі ў Еўропу»* — задача нават не з адным, а з двума невядомымі. Таму не будзем нават спрабаваць яе адгадаць, а лепш пацікавімся артыкуламі «сумеснай платформы».

У першых двух сказана пра салідарную абарону незалежнасці і падтрымку прэзідэнцкіх выбараў у траўні (аб чым раней ужо згадвалася). А вось трэці пункт новы. Кангрэс не толькі падтрымаў пратэсты рабочых, але і заклікаў дэмакратаў-партыйцаў дапамагчы рабочым рыхтаваць агульнанацыянальны страйк з мэтай адстаўкі прэзідэнта і ўрада. Аднак на такі страйк дэмакраты асабліва не спадзяюцца і таму плануюць падрыхтаваць *«канкрэтныя захады па прызнанні рэжыму Лукашэнкі нелегітымным унутры краіны і ў міжнародных адносінах, калі канстытуцыйная законнасць у краіне не будзе аднаўленая»*. Тэрмін аднаўлення дадзены Лукашэнку не надта вялікі — да 20 ліпеня. Пасля пачнуцца *«канкрэтныя захады»*. Праўда, нават прыблізна невядома, якія. Аб гэтым мы, пэўна, даведаемся на наступным кангрэсе дэмакратычных сілаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Перапіс нікога не абміне

**У міністэрстве статыстыкі і аналізу паведамілі, што, нягледзячы на дэфіцыт фінансавых сродкаў, перапіс насельніцтва адбудзецца ў раней прызначаны тэрмін, з 16 па 23 лютага.**

Лічыльнікі «прыйдуць у госці» да ўсіх, не выключэнне і жыхар № 1 — прэзідэнт Лукашэнка, якому давядзецца падрабязна распавесці пра шлюбны стан: жыве ён у зарэгістраваным альбо незарэгістраваным шлюбе, ці наогул разведзены. Усіх будуць перапісваць па месцы жыхарства, і Галіне Лукашэнка давядзецца адказваць на анкету ў Рыжкавічах.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Каму давяраюць у Мінску?

Сацыялагічнае апытанне, праведзенае ў Мінску службай «Зеркало», дало цікавы вынік: высветлілася, што мінчане больш за ўсё давяраюць царкве (да такога адказу схілілася 30% апытаных), Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў (21%) і войску (18%).

16% апытаных мінчан поўнасцю давяраюць Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і прэзідэнту Беларусі, 15% — недзяржаўным тэлебачанню, радыё і газетам.

Сярод структураў, прадстаўнікі якіх зусім не карыстаюцца даверам, наперадзе міліцыя (52% апытаных), партыі, што падтрымліваюць прэзідэнта (49%), а таксама ўрад і мясцовыя органы ўлады (па 47%). 45% рэспандэнтаў поўнасцю не давяраюць прэзідэнту Беларусі.

*БелаПАН*

*АГРАПРАБЛЕМЫ*

# Посрамление Гераклита

**Как известно, этот древний грек утверждал, что в одну и ту же реку нельзя вступить дважды. Мол, все течет, все изменяется...**

Граждане страны Советов охотно с этим соглашались, поскольку видели в такой диалектике доказательство необратимости прогресса, а значит, и гарантию новой жизни в светлом будущем взамен опостылевшего прошлого. А для широкого круга лиц, пропагандировавших преимущества нашей системы, к которым принадлежал и нынешний президент Беларуси, вера в необратимость времени и прогресса была профессиональным требованием. Ибо какой же ты пропагандист-информатор, коль не веришь в светлое будущее?

Но не так давно произошел казус. Бывшими информаторами во главе с Лукашенко овладела навязчивая идея насчет того, что то самое будущее уже было в прошлом. А конкретно, в 1990 году. Абсурд? Не спешите с выводами, уже получилось. Да еще как! Идея овладела массами и поистине стала материальной силой. Многие не ограничились каким-то десятилетием и возвратились прямиком в начало века.

Так, каждый пятый колхоз-совхоз в прошлом году получил менее 50 центнеров картофеля с гектара (в 1913 г. средняя урожайность этой культуры в Беларуси составила 69 центнеров). При таких темпах для наших лидеров и каменный век не проблема. Остальные, к сожалению, ускоряются не столь интенсивно, но и отстают не безнадежно. Урожайность зерновых и зернобобовых в 40% колхозов и совхозов уже снизилась до 1970 г., когда о победе зрелого (развитого) социализма только-только начали говорить в ведомстве тов. Суслова.

И вообще валовые и относительные показатели колхозов и совхозов в целом уже соответствуют уровню тридцатилетней давности. Но благодаря «преступной беспечности», с которой населению несколько лет назад была предоставлена возможность для самовыживания (выделены участки и участочки), до сих пор перебоев с картошкой и капустой вроде бы не наблюдается. Но, как говорится, не все потеряно: участочки те можно в любой момент возвернуть государству.

К тому же при такой экономической «свободе» ждать горожанам от сельчан молока-мяса не приходится. Не только потому, что у них нет для этого достаточных материальных ресурсов, но и потому, что сокращаются людские ресурсы деревни. Сельские пенсионеры, главный человеческий фактор частного животноводства, вымирают опережающими темпами, а вместе с ними исчезает и живность на сельских подворьях.

Колхозные же фермы уже пусты или полупусты. Ведь что в них содержать, если численность коров в общественном секторе сократилась до 1,3 миллиона голов, свиней — до 2,3 миллиона, что соответственно на 300 и 100 тысяч меньше, чем в целом насчитывалось в Беларуси в 1913 году. К тому же народу в то время у нас было 7 миллионов человек, а не 10 миллионов, как сейчас. И за энергоносители не надо было рассчитываться маслом и яйцами: больше себе оставалось.

В общем, нас ожидают чудеса с глубоким проникновением в прошлое, с обратным движением во времени, с возвратом в счастливое детство. Да и теперь мы наивны, как дети. Что там говарил Гераклит?



**Константин СКУРАТОВИЧ**

## Магілёў – пад надзейным кантролем

**1.917 праверак правялі за мінулы год супрацоўнікі Магілёўскага абласнога ўпраўлення дзяржкантролю.**

Кантралёры спагналі з прадпрыемстваў і ўстановаў 543 мільярды рублёў штрафаў. Амаль 100 чалавек былі зняты са сваіх пасадаў, каля 1.300 — прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці.

**Іван ЗАСАДА**

## «Опель» – міліцыі

**Гродзенская абласная міліцыя па выніках расследавання злачынстваў за мінулы год прызнаная лепшай сярод усіх абласных УУС.**

Узнагародай стаў аўтамабіль «Опель», які будзе выкарыстоўвацца ў ДАІ. Аўтамабіль ужо прыбыў у Гродна.

**С.А.**

## Дэфіцыты пад прылаўкам

**Ваенная пракуратура краіны займаецца «гандлёвай» справай: фактамі парушэнняў у крамах вайсковых частак.**

У перадпанавагоднія дні праверка выявіла ў вайсковых крамах факты ўтойвання дэфіцытных тавараў ад пакупнікоў. Правінліся прадаўцы ў Бабруйску, Віцебску і Гродне. Яны хавалі пад прылавак найперш прадукты харчавання — яйкі, цукар, малочныя вырабы, а таксама шампанскае.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Расія засталася без малака

**Буйная партыя сухога малака была затрыманая міліцыяй у памежным з Расіяй Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці.**

Каля вёскі Гарадок мясцовыя «пінкертоны» спынілі КамАЗ, у якім знаходзілася 19 тон сухога малака коштам больш чым у 5 мільярдаў рублёў. Дакументаў на права вывазу прадукту ў Расію ў кіроўцы не было, таму і груз, і аўтамабіль былі сканфіскаваныя ў даход дзяржавы.

**Іван ЗАСАДА**






# На Беларусі новыя рок-каралі

(Пачатак на стар. 1)

Таксама цалкам заканамерна, што лепшым музыкантам быў прызнаны Піт Паўлаў, музыкант-«многастаночнік» — гітарыст гуртоў *NRM*, «Крыві», удзельнік запісу альбомаў Аляксея Шэдзько. Нягледзячы на тое, што ў сёлетніх анкетах адсутнічала намінацыя «Рок-князёўна», журналісты настаялі на тым, каб гэтае званне дасталося адной з лепшых беларускіх вакалістак Вераніцы Кругловай з гурта «Крыві». У намінацыі «Адкрыццё года» перамагла маладзечанская група «Нарру фэйс». Лепшым тэкставіком года прызнаны Аляксей Шэдзько. Апошняга ўключаюць у склад удзельнікаў «Рок-каранацыі» яўна з-за асабістых прыхільнасцяў арганізатараў — творчасць Аляксея з вялікай нацяжкай можна аднесці да рок-музыкі.

Увогуле «нацяжак» на сёлетняй цырымоніі было вельмі шмат. Незразумелае жаданне арганізатараў аб'яднаць рок-музыку з афіцыйнай эстрадай. Прыз «Нейра-Дзюбелю» за лепшы альбом года ўручала Алеся, прыз Аляксею Шэдзько за лепшую песню аддаў Аляксандр Ціхановіч, сказаўшы пры гэтым, што ў маладосці ён «займаўся тым жа самым, што і «дзюбелі». І, нарэшце, «Рок-карону» «Нейра-Дзюбель» атрымаў ад «старэйшага песняра» Уладзіміра Мулявіна, які зазначыў, што яму вельмі падабаецца гэты гурт, і ў доказ праспяваў разам з Аляксандрам Кулінковічам, лідэрам «Нейра-Дзюбеля», бессмяротную «Волагду». Але, нягледзячы на ўсё гэта, свята адбылося.

**Магдалена Н.**

# Каму за так, каму за грошы

**Нейк дзіўна ў нас усё атрымоўваецца. Рынкавыя адносіны чамусьці абмінаюць эканоміку, дзе яны павінны ўсталявацца ў першую чаргу, і ўсё больш пранікаюць у сферы сацыяльныя.**

У мінулым годзе, напрыклад, працягвалася «самалiквідацыя» бясплатнай вышэйшай і спецыяльнай адукацыі. У выніку цяпер кожны пяты студэнт ВНУ і кожны сёмы навучэнец тэхнікума вучыцца за грошы — у большасці за бацькоўскія. За кошт павелічэння на 17 тысяч колькасці «студэнтаў-сваекоштнікаў», а таксама тых, хто вучыцца на сродкі фірмаў і прадпрыемстваў, агульная колькасць студэнтаў ВНУ ўзрасла да 207 тысяч чалавек.

Цікава, што каля 8 тысяч «платнікаў» вучыцца ў дзяржаўных ВНУ, для якіх гэтая акалічнасць можа істотна паўплываць на павышэнне заробку прафесарска-выкладчыцкага складу. Астатнія 38 тысяч — гэта студэнты 16 недзяржаўных ВНУ.

Падрыхтоўку спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй ажыццяўляе 151 установа — гэта дзяржаўныя тэхнікумы, каледжы і вучэльні. У іх вучацца 133,4 тысячы чалавек, у тым ліку 21 тысяча за ўласны кошт, што на 5,7 тысячаў (37%) больш, чым летась.

Вялікай колькасці падрыхтаваных маладых спецыялістаў можна было б толькі радавацца, але многія выпускнікі ВНУ і тэхнікумаў не знаходзяць сабе занятку па спецыяльнасці. Прынамсі, не атрымалі накіраванняў на працу 14% усіх выпускнікоў дзённых аддзяленняў ВНУ і 23% выпускнікоў тэхнікумаў. Наогул, па звестках дзяржаўнай службы занятасці, па стане на 1 кастрычніка ў якасці беспрацоўных зарэгістравана 2.130 выпускнікоў ВНУ і тэхнікумаў, сярод якіх 1.737 — жанчыны.



У краіне налічваецца амаль пяць тысяч дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназіяў і ліцэяў, дзе вучыцца паўтара мільёна дзяцей. А вось недзяржаўных агульнаадукацыйных школ у Беларусі ўсяго 13, і наведваюць іх крыху больш за тысячу навучэнцаў.

Зразумела, калі ёсць грошы і калі іх можна афіцыйна заплаціць у касу навучальнай установы, то гэта пазбаўляе, перш-наперш, бацькоў ад многіх турботаў. Прынамсі, не трэба шукаць, каму з прыёмнай ды іншых камісіяў даць хабар. Але ж калі колькасць платнікаў будзе павялічвацца такімі тэмпамі, ці не прыйдзецца нам плаціць з уласнай кішэні за пачатковую адукацыю? Бо чаго не бывае пры рынкавым сацыялізме.

**К.С.**

# Покорение Европы

**Сергей ПУЛЬША**

Любители *Political fiction* существуют не только на Западе. Книга, о которой рассказал Семён Букчин в материале «В 2006 году Европа будет лежать под сапогом российского солдата» (НАВІНЫ, 20.1.1999), несмотря на авторство специалистов, удивляет, скорее, своей невероятностью.

Гораздо успешнее такие идеи разрабатываются в самой России. Отпечатанная в Белорусском доме печати книга Святослава Россича (явный псевдоним) «Реванш России» интересна тем, что более реалистично, но практически «один в один» повторяет произведение Уайнбергера и Швейцера.

...Наше время. В Москве происходит заказное убийство офицера спецподразделения КГБ. Примерно через месяц друг и коллега покойного получает конверт с своеобразным «завещанием», в котором подробно описано, как и куда исчезло «золото партии» — отнюдь не за границу. Оно лежит в спецхранах на территориях секретных воинских частей. С помощью надёжных друзей и «сыворотки правды» «наследник» вывозит золотой запас СССР в хранилище специально созданной фирмы, становится крупным бизнесменом и созывает высший командный состав всех родов войск — разумеется, из тех, кто «душой болеет за Россию». Этот «штаб» и распределяет деньги по мере необходимости.

«Почто́вые ящики» получают финансирование новых образцов вооружения, на верфях Владивостока под видом «частного заказа» строится современная эскадра, в том числе и авианесущий крейсер. Секретность проектов соблюдают специалисты, да и частными заказами никто не интересуется.

Отдельной статьёй идёт финансирование новой политической партии, «продвигающей в жизнь» идею возрождения России, неотделимую от банальной фразы «Бей жидов, спасай Россию». Кроме «жидов», в качестве жертв выступают «лица кавказской национальности». С последними прямо на улицах кастетами и арбалетами уже начинает «работать» молодёжное крыло партии — «Ангелы России», те самые воспитанники школ-интернатов.

Партия не приходит к власти — «штаб» её просто захватывает, устраивая на Красной площади показательную казнь, 500 главных преступников России, в число которых вошла правящая элита, известные экономисты, журналисты, политики. С остальными, «не главными» проводятся переговоры: в обмен на перечисление своих денег, хранящихся в основном в Швейцарии, государству они получают относительную свободу. Этакое «раскулачивание» по-современному.

Вместе с «врагами России» ликвидируется большая часть иностранных разведчиков — успешная работа «теневой контрразведки».



*Лондонский парад, 1998.*

Вот тут начинаются неприятности для Европы.

Россия занимает жёсткую позицию по Балканам: либо НАТО убирает оттуда свои войска, либо Россия «возвращает» себе Прибалтику. Для Запада — «неизвестно откуда» у России появляется крупный и современный военно-морской флот. Корабли проводят показательные учения в Балтийском море. Право первого ракетного залпа даётся западным «коллегам». «Коллеги» поражены — ни одна ракета не приблизилась к «условному противнику», все были сбиты противоракетной обороной ещё далеко до цели. Второй залп производит новая российская ракетная система, просто «взламывающая» то, к чему американцы даже приблизиться не смогли. И «на посошок» российский флот демонстрирует новую сверхточную тактическую ракету: детище тех самых «почтовых ящиков».

Но НАТО не внемлет предупреждениям и наносит ракетные удары по сербским позициям с кораблей 7-го флота США, развернувшихся в территориальных водах Сербии. В ответ обученные аквалангисты-камикадзе с помощью российской ракетной поддержки пускают на дно 95% 7-го флота, российская эскадра становится в боевое дежурство на Балтике, «накопившиеся» ночными поездами на границе с прибалтийскими республиками российские войска в два дня захватывают независимые государства. Разумеется, при полной поддержке и ликовании русскоязычного населения, в основном военных пенсионеров.

Европа хотела бы чем-то помочь Прибалтике, но не может: «демонстрацию силы» со стороны российского флота видели все. США заняты своими проблемами, по сравнению с которыми разгром 7-го флота — детский лепет.

Штаты погубила политика «утечки мозгов». Под видом предпринимателей и крупных специалистов в 80-90-е годы в страну приехали тысячи российских разведчиков, создавших десятилетиями работавшие фирмы. В «час икс» все эти фирмы начали игру на американской бирже с одной целью — вызвать экономический крах. Это им в полной мере удаётся. Жестокий мировой экономический кризис не касается только России, уже давно находящейся за железным занавесом, на гребне экономического подъёма.

К тому же 2006 году Россия занимает ведущее положение в мире без всяких ядерных тактических ударов.

Безусловно, можно было бы ссылаться на *Political fiction*, если бы подобные произведения появлялись в единичном экземпляре. Несколько подобных произведений — это уже тенденция. В данный момент это уже даже не тенденция. Это направление в современной российской литературе, которое можно примерно назвать «реваншистским течением». Течение это сознательно культивируется и распространяется во всех видах литературы.

*Political fiction* — ясно, Россич. Реалистические выкладки, почти руководство к действию. Для любителей серьёзной интеллектуальной политической литературы есть А.С.Панарин, который с цифрами, фактами, таблицами и диаграммами доказывает полное право России возродиться в границах СССР и стать ядерной супердержавой.

Таких произведений, направленных на возрождение и пропаганду имперского сознания, в России хватает. И в дискуссиях по поводу вступления/невступления кого-либо в НАТО прежде всего надо прислушиваться к российским тенденциям. Они более поучительны.

КАНФЕСІІ

# Ватыкан рыхтуецца да юбілею

Папа Рымскі Ян Павел II аб'явіў 2000-ы год святым. Каталіцкая імперыя збіраецца прадэманстраваць свету сваю ўладу і веліч. Чакаецца, што на Каляды 1999 года Рым наведаюць каля 20 мільёнаў турыстаў. Вечны горадператворыцца цяпер у самую вялікую будаўнічую пляцоўку Еўропы. 2000-ы юбілей будзе святкавацца па ўсім свеце. З гэтай нагоды Ян Павел II збіраецца ў вялікае падарожжа: ад Егіпта праз Сінай да Ерусаліма і Дамаска. Ён сустракаецца з іудзеямі і мусульманамі. Запланаванымі святкаваннямі Ватыкан хоча замацаваць сваю ролю галоўнай інстанцыі маралі ў свеце.

Ватыкан уступае ў трэцяе тысячагоддзе ў якасці апошняй па рангу абсалютысцкай манархіі, якая ўяўляе сабой мультынацыянальны канцэрн пад цэнтралізаваным упраўленнем. Аднак напрыканцы другога тысячагоддзя палітычны ўплыў Ватыкана ў свеце памяншаецца, нягледзячы на інсцэніраваны юбілей і нястомную дыпламатыю паездак Святога айца. Перш за ўсё гэта адчуваецца ў старых каталіцкіх бастыёнах Еўропы. З 1978 года, пасля таго як Ян Павел II узначаліў Апостальскую сталіцу, каталіцкая царква ў Германіі згубіла больш за два мільёны сваіх прыхільнікаў. Усё меней маладых вернікаў жадае стаць святарамі. Лацінская Амерыка, дзе іспанцы і партугальцы праводзілі евангелізацыю мячом і агнём, застаецца самым рэакцыйным кантынентам у свеце, але царкоўная сістэма пачынае трашчэць па швах.

З надзеяй Папа Рымскі паглядае на Усход і Афрыку. Пасля падзення камунізму Ватыкан імкнецца замацавацца на Усходзе Еўропы. Розныя каталіцкія арганізацыі і ў тым ліку кансерватыўны тайны саюз *Opus-Dei* садзейнічаюць рэстаўрацыі і будаўніцтву касцёлаў, адукацыі ксяндзоў. Поспех мае каталіцкая царква і ў Афрыцы, дзе колькасць вернікаў вырасла з 1,7 мільёна (пачатак стагоддзя) да 110 мільёнаў. Аднак Папу Рымскаму чорны кантынент робіць шмат клопату: цяжка прывіваюцца тут уяўленні пра хрысціянскія каштоўнасці, перш за ўсё у сексуальнай маралі. Уплыў афрыканскай мясцовай царквы мацнее і можа адбіцца на пазіцыях каталіцызму ў Еўропе.



*Папа Ян Павел II і камуніст Фідэль Кастра.*

Папа Рымскі плануе ажыццявіць у 2000 годзе «акт пакаяння». Ён папросіць прабачэння за ўсе злачынствы 2000-гадовай гісторыі царквы, бязлітасны пераслед іншадумцаў, іудзеяў і мусульманаў, інквізіцыю, барацьбу з ведзьмамі, палітычныя забойствы.

Звонку сусветная царква выглядае імпазантна. У адміністрацыі Папы каля 3.500 супрацоўнікаў. Штогадовы бюджэт складае каля 211 мільёнаў доляраў, палова ідзе на ўтрыманне персаналу і службовых устаноў, рэшта — на радыё Ватыкана (400 супрацоўнікаў), на выданне штодзённай газеты *L'Osservatore Romano* і апошнім часам на Інтэрнэт.

Акрамя прадпрыемстваў і музеяў, Ватыкан атрымоўвае прыбыткі ад банкаўскіх укладаў (гэта больш за паўмільярда долараў). Да гэтага трэба дадаць ахвяраванні і ўзносы мясцовых цэркваў.

Ватыканскі дзяржсакратарыят на чале з другім чалавекам пасля Папы, італьянскім кардыналам Анджэла Садана кіруе 160 нунцыятурамі амаль ва ўсіх краінах свету. Папскія дыпламаты, вочы і вушы імперыі, збіраюць інфармацыю, вядуць перамовы з урадамі і кантралююць біскупаў і тэолагаў. Пры гэтым папскія нунцы маюць крыніцы інфармацыі, пра якія могуць толькі марыць дыпламаты іншых краінаў.

І ўсё ж не заўсёды Папу Рымскаму ўдаецца ўтрымаць епіскапат ад грахоў. Сярод сыноў царквы знаходзяцца і няправедныя — як французскі біскуп, што ў 1995 годзе быў пазбаўлены пасады за абарону абортаў. Альбо швейцарскі пастыр, што стаў жыць са сваёй сяброўкай, і калі ў іх нарадзілася дзіця, пакінуў службу ў царкве.

Як будзе існаваць каталіцкая імперыя ў будучым тысячагоддзі — залежыць не толькі ад таго, хто займе пасаду ў Ватыкане. Хаця і гэтае пытанне неўзабаве стане актуальным. 78-гадовы Ян Павел II спадзяецца перажыць святы 2000 год. Італьянцы, якія дамінавалі на працягу стагоддзяў, цяпер здалі свае пазіцыі. Больш за палову кардыналаў паходзяць з Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі. Аднак кардынал Фрэнсіс Арынзэ з Нігерыі, кіраўнік Савета па міжрэлігійным дыялогу з сусветнымі рэлігіямі, мае мала шанцаў стаць чорным Папам. Адкрытым застаецца пытанне, хто з італьянцаў стане пераемнікам Яна Паўла II. Аднак калі сапраўды на выбарах вее Святы Дух, то ён мог бы паспрыяць 69-гадоваму міланскаму кардыналу Карло Марыя Марціні.

*Der Spigel*

ЮБІЛЕЙ

# Мастак, які вучыць любіць тэатр

*Тэатральны мастак Яўген Чамадураў святкуе 85-годдзе*

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, уласнае памяшканне якога пакуль знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі, арганізаваў у Гасцёўні Уладзіслава Галубка (Траецкае прадмесце) выставу эскізаў знакамітага тэатральнага мастака Яўгена Чамадурава, у свой час — галоўнага мастака Беларускага тэатра оперы і балета, а сёння — 85-гадовага юбіляра.

Народны мастак Беларусі Яўген Чамадураў стаіць у шэрагу самых вядомых дзеячаў нашага мастацтва. Оперныя і балетныя спектаклі ў ягоным афармленні сталі гонарам беларускай сцэны, але мастак працаваў таксама і ў іншых рэспубліках СССР і за мяжой — у Венгрыі, Румыніі, Фінляндыі, Бразіліі. Сярод ягоных работ — афармленне класічных і сучасных опер і балетаў: «Барыс Гадуноў», «Князь Ігар», «Пікавая дама», «Лебядзінае возера», «Рамэо і Джульета» і многіх іншых. Дарэчы, афармленне знакамітага беларускага балета «Выбранніца», сцэна з якога «ўпрыгожвае» нашую 100-тысячную купюру, — таксама работа Я.Чамадурава.



*Яўген Чамадураў. Эскіз касцюмаў да балета «Папялушка». 1965.*

Супрацоўнікі і калегі Яўгена Чамадурава шчыра прызнаюцца ў адданай любові гэтаму чалавеку. «Гэта ўнікальны чалавек, залатая старонка ў кнізе нашага тэатра», — кажа народная артыстка СССР, спявачка Тамара Ніжнікава. А былы вучань Яўгена Рыгоравіча, мастак Барыс Казакоў сказаў яму на адкрыцці выставы такія словы: «Вы геніяльны чалавек, вучыцца ў вас — гэта было цудоўна. Вы вучылі нас разумець літаратуру і драматургію, дзякуючы вам я палюбіў тэатр. Вы былі маім адзіным сапраўдным выкладчыкам, вы і дагэтуль выкладаеце ў мяне ў душы».

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

# Даты і лёсы

## *2 лютага*

**Каталікі адзначаюць Грамніцы (Стрэчанне). Назва свята паходзіць, верагодна, ад імя паганскага бога Грамавіка (Перуна).**

**1508.** Князь Міхал Глінскі ўзняў мяцеж супраць Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта Старога. Мяцежнікам удалося захапіць Гародню, але штурм Вільні быў адбіты. Войскі, якія паслаў на дапамогу Глінскаму маскоўскі князь Васіль III, былі разбітыя. Правадыр мяцежнікаў уцёк у Маскву.

**1709.** Рэальны прататып Рабінзона Круза шатландзец Аляксандэр Селкерк быў вызвалены ў гэты дзень з бязлюднай выспы Мас, дзе ён пражыў у джунглях 5 гадоў. Раман Даніэля Дэфо выйшаў праз 10 гадоў пасля гэтага.

**1838.** Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, нацыянальны герой Беларусі, кіраўнік вызваленчага паўстання і заснавальнік нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда».

**1898.** На Вайсковых могілках у Мінску была асвечаная царква св.Аляксандра Неўскага, пабудаваная ў гонар беларускіх вяроў, што загінулі дзеля вызвалення Балгарыі з-пад улады турак. Прозвішчы 117-ці з іх напісаныя золатам на мармуровых плітах унутры царквы.

**1930.** Намеснік старшыні АДПУ Генрых Ягода выдаў загад пра «тэрміновую ліквідацыю кулацкага актыву» (у тым ліку некалькіх тысяч чалавек у Беларусі), а таксама масавае высяленне ў Сібір найбольш заможных сем'яў, царкоўнікаў і сектантаў. Для хутчэйшага вырашэння «кулацкага пытання» пры прадстаўніцтвах АДПУ ў рэспубліках і абласцях СССР былі сфармаваныя «тройкі», якія мелі права без суда накіроўваць абвінавачаных у канцлагер або на расстрэл.

ПАМЯТКА ДЗЁН

**1945.** Памесны сабор Рускай праваслаўнай царквы аднагалосна абраў Патрыярхам Маскоўскім і Усяе Русі Алексія I (С.Сіманскага). У тэлеграме на імя Сталіна патрыярх заверыў правадыра ў сваёй любові і адданасці.

**1979.** Ад перадазіроўкі гераіну памёр легендарны лідэр першага панкаўскага рок-гурта *Sex Pistols* Сід Вішэс (сапраўднае імя — Джон Беверлі). Псеўданім *Vicious* па-англійску азначае «заганны».

**1984.** Іда і Сайман Стэрн з Мілуокі (амерыканскі штат Вісконсін) скасавалі шлюб у рэкордным узросце — яны мелі, адпаведна, 91 і 97 гадоў. Напэўна, не сышліся характарамі.

## *3 лютага*

**1534.** Нарадзіўся польскі гісторык А.Гваньіні, аўтар «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі», у якой змешчана шмат звестак пра гарады і крэпасці Беларусі.

**1769.** Раптоўная смерць Папы Рымскага Клімента XIII не дазволіла яму выканаць сваё рашэнне аб роспуску ордэна езуітаў. Тым не менш дзейнасць ордэна забараніў праз 4 гады ягоны наступнік Клімент XIV.

**1809.** Нарадзіўся вядомы нямецкі кампазітар Фелікс Мендэльсон, аўтар папулярнага шлюбнага маршу.

**1889.** Нарадзіўся дацкі кінарэжысёр Карл Дрэер, аўтар апошняга шэдэўра нямога кіно «Страсці Жанны д'Арк» (1928).

**1919.** Усебеларускі з'езд Саветаў прыняў першую Канстытуцыю БССР. Паводле яе, функцыі ўрада ў рэспубліцы павінен быў выконваць Вялікі прэзідыум ЦВК Беларусі, старшынёй якога быў абраны А.Мяснікоў. З'езд прыняў таксама дэкларацыю пра федэратыўныя сувязі Беларусі з РСФСР ды іншымі савецкімі рэспублікамі.

**1959.** У авіякатастрофе загінуў класік рок-н-рола, 23-гадовы Бадзі Холі, аўтар хітоў *That'll Be the Day* і *Peggy Sue.*

**1969.** Ясір Арафат быў абраны лідэрам Арганізацыі вызвалення Палестыны.

## *4 лютага*

**1904.** Пачалася Руска-японская вайна за ўладанне Паўночна-Усходнім Кітаем (Манчжурыяй).

**1928.** Нацысты сарвалі выступленне ў Мюнхене чарнаскурай амерыканскай спявачкі Жазефіны Бейкер. Неўзабаве ёй было ўвогуле забаронена выступаць у горадзе з прычыны «непрыстойных паводзінаў на сцэне».

**1963.** Мінскі абласны суд абвясціў прыгавор актывістам абшчыны евангельскіх хрысціян-баптыстаў: ад 2 да 5 гадоў пазбаўлення волі. Іх абвінавацілі ў правядзенні нелегальных сходаў і падрыхтоўцы Усесаюзнага з'езда абшчын ЕХБ, якія адмаўляліся падпарадкоўвацца ў сваёй дзейнасці савецкім уладам.

**1972.** У выніку землятрусу ў Гватэмале загінулі 22 тысячы чалавек і паўтара мільёна засталіся без даху над галавой. У чацвёртую гадавіну трагедыі ў **1976 г.** землятрус паўтарыўся: загінулі 23 тысячы чалавек, быў разбураны кожны трэці дом.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 504 Нумар падпісаны ў друк 01/02/99 (15:00) Наклад — 17.380